# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ

Выдае Царкоўная Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі: "The Voice of the Church", 108 Wyckoff St., Brooklyn 1, New York, N. Y.

Tel.: Ulster 2-7552 Цана 25 цэнтаў

№ 2. КАЛЯДЫ, 1955 ГОД. 1.

## БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ

СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЯПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ

Да ўсечэснога Духавенства, прэпадобнага Манашаства й усіх багалюбівых вернікаў нашых на Чужыне й на Бацькаўшчыне прабываючых

## КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*„І СЛОВА целам сталася, і пасялілася між нас".*
*(Іо. 1,14).*

УЛЮБЛЕНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!

Такімі натхнёнымі й цудоўнымі словамі зьвястуе нам сьв. Апостал Іоан вялікую радасьць: Хрыстос НАРАДЗІЎСЯ! Хрыстос, прадвечнае „Слова целам сталася, і пасялілася між нас, і бачылі мы славу Яго, як Адзінароднага ад Айца, поўнае ласкі й праўды". А сталася гэта не прыпадкова. Аб гэтым апавясьціў Бог Айцец ужо зграшыўшым Адаму й Еве ў Раю: „Насеньне Жанчыны скрышыць галаву шатана" (І Майс. 3,15).

Гасподзь Бог стварыў Адама й Еву для вечнага й шчасьлівага жыцьця ў Раю. Але зьмей-шатан спакусіў іх, яны цяжка зграшылі й гэтым страцілі Рай і жыцьцё вечнае. Аднак, Гасподзь Міласэрны, дзеля бясконцае любові Свае, зьмілаваўся над імі й абяцаў паслаць ім Месію-Спасіцеля, Каторы Сваім послухам аж да сьмерці на Крыжы паверне людзям страчанае жыцьцё вечнае ў Раю.

Цяжкое было жыцьцё людзей пасьля страты Раю. Аднак, надзея на Месію-Спасіцеля іх ад роспачы ратавала, узмацняла, пацяшала. А калі яна слабела, а часам і зусім зьнікала, Гасподзь Бог прыпамінаў ім аб ёй праз Сваіх Прарокаў, якія, натхнёныя Духам

Сьвятым, гаварылі людзям: Прыйдзе Месія, народзіцца ад Прачыстае Дзевы ў Віфлееме, злучыць ізноў людзей з Богам!

І вось, калі споўнілася поўня часу, у ціхую Сьвятую Ноч стаўся цуд: зазьзяла Зорка над Віфлеемам! Зорка Ласкі, Міласэрдзя й Любові Божае. У вялікім сьвятле зьявіўся Ангел на небе й апавясьціў Віфлеемскім пастыром аб вялікай радасьці ўсім людзям: „Цяпер нарадзіўся вам у месьце Давідавым Спасіцель, Каторы ёсьць Хрыстос Гасподзь" (Лк. 2,11).

Хрыстос, Спасіцель наш, НАРАДЗІЎСЯ! Нарадзіўся ў ясьлях у стайні, бо „ня было Яму месца ў гасподзе" (Лк. 2,7). Дзіва дзіўнае: Валадар Неба й зямлі, Творца ўсяго сьвету, нарадзіўся як найбяднейшы чалавек! Але гэта толькі для нас дзіва, бо Народжаны Хрыстос, паводля Провіду Божага, меў узяць на Сябе ўсе беды, немачы й грахі нашыя. Таму Ён, як Чалавек, ужо ад Нараджэньня мусіў быць сярод гэтае бяды, немачаў, выгнаньня, цярпеньняў, уключна з пакутамі на Крыжы. Ісус Хрыстос узяў беды нашыя на Сябе, каб нас зрабіць шчасьлівымі. Ён зыйшоў зь Неба, прыняў нашае цела, каб ачысьціць, асьвяціць нас, зрабіць нас ізноў дзяцьмі Божымі. Ён панізіў Сябе, каб так падняць нас на ўзровень ангелаў, на вышыні Нябесныя! Ён стаў Чалавекам, каб перамагчы ўсе слабасьці нашыя й паказаць нам, што й мы можам карыстацца сілаю Яго, калі толькі пойдзем за Ім, па слову Яго: „Калі будзеце мець Веру, дык зробіце тое, што Я раблю, і нішто ня будзе немагчымае для вас" (Мц. 17,20). Урэшце, Сваім Нараджэньнем у стайні, Спасіцель наш асьвяціў усю прыроду, усякі твор.

Таму ў ціхую Сьвятую Ноч Нараджэньня Дзіцятка ўся прырода заціхае, зачараваная зьяўленьнем Тварца сваяго ў людзкім целе, усякі твор пяе хвалу Яму. Тым болей людзі, зачараваныя сьвятлом Зоркі Віфлеемскае, абнаўляюцца, прасьвятляюцца, выбачаюць сабе крыўды розныя, бо-ж гэтае сьвятло Любові Божае ня ведае ніякіх перашкодаў, ніякіх межаў, абыймае сабою ўвесь сьвет: усіх людзей, усякі твор. Таму таксама нашы пабожныя продкі з усёабыймаючаю любоўю ў сэрцах сваіх нясьлі сена са стала ў стайню й давалі яго жывёле, бо ў гэтую часіну ўсё было Божае!

Так дабрадатныя праменьні Зоркі Віфлеемскае, як сьвятло Ласкі й Любові Божае, натхняюць сабою ўвесь сьвет, усюды нясуць радасную вестку аб Нараджэньні Богачалавека на зямлі, весьцяць Праўду, Супакой-Мір усім людзям добрае волі. І як даўней людзі добрае волі цешыліся надзеяй на Прыход Спасіцеля, так і цяпер з Нараджэньнем Яго цешацца надзеяй, што скора запануе ўсюды на сьвеце любоў, брацтва й мір, як Ён і сказаў: „Прыдзеце да Мяне ўсе працуючыя й абцяжаныя, і Я супакою вас" (Мц. 11,28). Таму ўсе людзі добрае волі ў ціхую Сьвятую Ноч вітаюць Народжанае Дзіцятка, як сьвятло й мір сьвету, фіміамам свае любові й надзеі, выяўляючы гэта сьвятлом запаленых сьвечак. І асабліва ў гэтую Сьвятую Ноч душы іх цешацца, бо адчуваюць прысутнасьць Творцы сьвету й міру-супакою сярод іх дый цьвёрда верацъ, што скора прыйдзе час, і „Бог міру скрышыць шатана пад нагамі нашымі" (Рым. 16,20).

Але радасьць нашая заўсёды большая, калі мы дзелімся ёю з нашымі блізкімі. Таму ў гэты Сьвяты Вечар кажны сьпяшыць дамоў, да сваё сямейкі, да стала з пахучым сенам, каб перажыць радасьць ангелаў і Маці Божае перад яьслямі Дзіцятка. Нажаль, многія з вас будуць мець пустыя месцы пры сваім стале, бо там ня будзе таты, мамы, або сына, дачкі. І не адна сьляза скоціцца з абліччаў вашых, але няхай яна злучаецца з гарачаю Вераю й Любоўю да Народжанага Хрыста, Бога нашага, Каторы пацешыць вас, пашле Ласку Сваю вам і тым, каго няма з вамі. Асабліва-ж шчыра й горача памолімся ў гэты Сьвяты Вечар за тых нашых братоў і сёстраў, што церпяць і пакутуюць удома дый на катаргах і высылках сучаснага Ірада. Спасіцель наш выслухае малітвы нашы, і паможа нам неўзабаве славіць Яго на нашай народжанай, Вольнай і слаўнай Бацькаўшчыне-Беларусі.

З гэтаю цьвёрдаю вераю й надзеяй на мір Божы ў сьвеце, з палымяннай любоўю да Нованароджанага Хрыста, Бога нашага, вітаем вас, усечэсныя Айцы й улюбленыя Браты й Сёстры зь вялікім і радасным Сьвятам РАСТВА ХРЫСТОВАГА і з надыходзячым НОВЫМ ГОДАМ. Няхай сьвятло Зоркі Віфлеемскае ўзмацніць і прасьвятліць вас дый злучыць вас у адну Богу мілую сямейку, і радасьць вашая будзе поўная, бо Ягоная, Хрыстовая (Іо. 15,11).

Пасылаем вам нашае Архіпастырскае Багаславеньне. Стала ўзмацняйце Веру вашую ў Хрыста, Бога нашага, пазнавайце Праўду Яго, і „яна зробіць вас вольнымі" (Іо. 8,32), ды шчасьлівымі й раднымі тут на зямлі й там на Небе.

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Шчадроты Сьвятога Духа будуць з усімі вамі. АМІНЬ.

† СЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП СЕРГІЙ
*Глава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

† СЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ
*Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне.*

Дана Року Божага 1955
месяца сьнежня
Аўстралія-Амэрыка.

---

# СЛАВА НА ВЫШЫНЯХ БОГУ...

І сталася ў тыя дні: выйшла ад кесара Аўгуста павяленьне зрабіць сьпісаньне па ўсей зямлі. І пайшлі ўсе запісацца, кажны ў сваё места.

Цяжка ўздыхнуў Язэп: гэтае падарожжа ў Віфлееем! Ах, Марыя, я баюся.

Але Марыя міла ўсьмяхнулася й сказала: Язэп, мой дарагі, ці ты забыўся, што ангел сказаў мне?

— Ня бойся, Марыя! адказаў Язэп...

— А што ён сказаў табе? — Тыя самыя словы.

— Таму нічога ня будзем баяцца. І тут яшчэ нешта. Я чытала ў сьв. Пісьме прароцтва аб Месіі: Ён мае нарадзіцца ў Віфлееме. Забыўся ты аб гэтым?

— Не, Марыя, я не забыўся. І мне здаецца, што гэта скора станецца.

— Дык ці маем мы баяцца, Язэп?

— Не, Марыя, радасьць мая. Мы пойдзем у Віфлеем.

І наступнага дня, рана, яны пайшлі.

Ад Назарэту да Віфлеему 75 міль. Для Язэпа з Марыяй гэта было даволі цяжкое падарожжа.. На трэйці дзень, пад вечар, Язэп занепакоіўся: ён заўважыў, што Марыя пачала сьціскаць рукі, аблічча яе зрабілася нейкае дзіўнае. Дзіцятка мае скоро прыйсьці, шаптаў ён. Добра, што вось ужо перад намі Віфлеем.

Калі яны ўвайшлі ў Віфлеем, вуліцы яго былі поўныя народу. Ніхто ня слухаў Язэпа, калі ён пытаўся, дзе тут найбліжэйшая гаспода. Язэп занепакоены ўрэшце дастаўся да першае, другое, пасьля пятае, але надарэмна, усе былі перапоўненыя. Аднак, ён усё яшчэ ня траціў надзеі, і пастукаўся ў дзьверы наступнае. Выйшаў гаспадар.

— Мая жонка хворая, прасіў Язэп, скора мае нарадзіць Дзіцятка...

Гаспадар аспала й абыякава глянуў на іх, спачатку нічога не сказаў, а пасьля крыкнуў на сваю жонку: Сара, хадзі сюда, пагледзі, ці гэтая жанчына мае радзіць, ці гэта толькі подступ, каб атрымаць пакой?

— Гэтая? запыталася Сара. Яна мае зараз жа радзіць. О, я ведаю гэта!

— Прашу, у імя Божае! горача загаварыў Язэп.

— Не пераканаліся вы яшчэ, буркнула Сара, што гаспода перапоўненая? Увесь Віфлеем перапоўнены. Аднак, мы ня хочам мець дзіця на сходах. Трэба нешта зрабіць. Габрыэль! Мы маем адно цёплае й выгоднае месца вольнае.

— Ёсьць такое? Дзе? зь недаверам запытаўся Габрыэль, яе муж.

— У стайні. — У стайні?! прастагнаў Язэп. Але Марыя міла глянула на Сару. Я дзякую вам за гасьціннасьць, сказала Яна. Стайня цеплая, Я ведаю гэта, бо ня раз спала ў стайні з авечкамі. Я толькі спадзяюся, што вы нікога больш ня пусьціце туды.

— Не, ціха адказала Сара, і я вам памагу.

Стайня была прасторнаю пячэраю каля гасподы. Калі яны зь лятарнаю ўвайшлі ў яе, Язэп з болем у сэрцы падумаў: куды мы тут паложым Яе? Але сьледам прыйшла Сара ды гаспадар з бярэмям саломы. Ён палажыў яе каля сьцяны, а Сара накрыла пасьцілкаю й палажыла падушку пад галаву Марыі. Скора гаспадар выйшаў, а неўзабаве й Сара пайшла нагару за цёплаю вадою. Калі яна вярнулася, загадала Язэпу пакінуць іх і чакаць аж аго паклічуць.

Прайшла гадзіна, дзьве. Язэп ня мог вока замружыць, ён увесь час хадзіў поўны розных думак ды горача маліўся. Але, вось, раптам, ён пачуў голас: першы плач Дзіцятка!

Адным скокам ён ужо быў на каленях каля Марыі, а Яна, аслабленая, аднак, з шырока адкрытымі вачамі й мілай усьмешкай для

яго, прашаптала: глядзі! Яна ўзяла Дзіцятка на рукі й зь невымоўнай пашанай падняла высока,ня ведаючы яшчэ, што Яна гэтым як бы на Крыж Яго падымае, ды што ў Яе руках, як у Чашы, спачывае доля сьвету...

Язэп далей стаяў на каленях з палаючымі вачамі перад Дзіцяткам, Каторае прыйшло на сьвет, ад якога нічога не атрымае, а ўсё дасьць яму. Тымчасом Марыя заснула, а Дзіцятка ўжо спакойна ляжала ў ЯСЬЛЯХ, якія Язэп выслаў пахучым сенам. Язэп ня мог заснуць, хадзіў па стайні, падыходзіў да Марыі, да Дзіцятка й цешыўся, што Яны спакойна сьпяць.

Найдзіўнейшая рэч тая, разважаў ён, калі вось так гляжу на Дзіцятка, дык мне здаецца, што я ўжо даўно знаю Яго. І хоць я не айцец Яго, але Яно мне бліжэйшае, чым сваё собскае дзіця! Дзіўна толькі, што ніякага знаку зь Неба няма. Дзіцятка вось нарадзілася, тымчасам ангела няма!

Ён уважна прыслухоўваўся да ўсяго, але чуў толькі нейкі шэлест крыльляў ды галасы сьпячых ягнятак. Праўда, недзе чуліся галасы людзей, тупат ног, але-ж гэта ніякія знакі. Але вось, што гэта? Ён пачуў стук пры ўваходзе ў стайню. Баючыся, каб Марыя й Дзіцятка не прабудзіліся, ён пасьпяшыў да дзьвярэй. Адчыніўшы верхнюю палавіну іх, ён адразу прылажыў палец да вуснаў, бо тут пабачыў некалькі пастыроў, а на небе нейкую дзіўную зьзяючую Зорку. Ціха, прашаптаў Язэп, тут цяпер ня можна голасна гаварыць.

— Бог з табою! адказаў адзін зь іх ветліва. Мы не прыйшлі сюды, каб рабіць табе нейкія клопаты, не!

— Хто ж вы будзеце? запытаўся Язэп.

— Мы тутэйшыя пастыры, мы пасем авечкі.

— Цяпер ужо так позна, заўважыў Язэп, ды хацеў зачыніць дзьверы.

— Пачакай, сказаў пастыр. Толькі адно пытаньне: ці нарадзілася тут дзіця?

Дрыготкі ўзьнялі Язэпа. Сталася нешта нядобрае? Можа яны парушылі тутэйшыя законы, прабываючы ў стайні? Чаму вы пытаецеся аб гэтым?? І што вам да таго, што тут нарадзілася Дзіця?

— Ня бойся нас, дабрадзею, мы твае прыяцелі.

— О, тады добра. Так, тут нарадзілася Дзіцятка гадзіны дзьве таму.

Воклік зьдзіўленьня вырваўся з вуснаў пастыроў. Яны пачалі радасна вітцаць сябе, дый адзін сказаў: значыць, гэта праўда!

І першы зь іх з пашанаю палажыў руку на плячо Язэпа й запытаўся: дзяўчынка ці хлопчык? — Хлопчык, адказаў Язэп.

— І магчыма гэта, што Дзіцятка ляжыць у яслях?

— Так, адказаў Язэп, і сьлёзы пакаціліся з аблічча ягонага.

— Тады, Слава на вышынях Богу! прашаптаў першы пастыр усхваляваны, а разам зь ім і ўсе іншыя. Слухай, дабрадзею! Усе мы толькі што бачылі дзіўнае, цудоўнае здарэньне, і яно датычыць цябе.

— Дзіўнае, цудоўнае здарэньне? Надзея ўзмацнілася ў сэрцы Язэпа.

— Вер нам. Мы былі каля нашых авец гэтае ночы. Усё кругом выглядала як і заўсёды, толькі зоркі былі асабліва ясныя. Раптам Іона перарваў нашую размову й паказаў на неба. Там мы пабачылі нязвычайна ясную вялікую Зорку, і што яшчэ дзіўней — ангела ў вялікім сьвятле, і я чуў голас яго.

— А што гаварыў ён? хутка запытаўся Язэп.

— Ён сказаў нам: Ня бойцеся! — Але, ангел заўсёды так пачынае, а пасьля?

— А пасьля ён сказаў, што прыносіць нам радасную вестку: СПАСІЦЕЛЬ СЬВЕТУ НАРАДЗІЎСЯ! Я добра памятаю гэтыя словы, дый як я магу забыцца на іх: БО ЦЯПЕР НАРАДЗІЎСЯ ВАМ СПАСІЦЕЛЬ, КАТОРЫ ЁСЬЦЬ ХРЫСТОС ГАСПОДЗЬ!

— Хрыстос Гасподзь! усхвалявана прашаптаў Язэп.

— Так, прыяцелю. Гэта сказаў ангел. Ён апавядаў нам, што Дзіцятка толькі што нарадзілася ў гэтым горадзе, і што мы знойдзем Яго спавітае ў пялёнкі й ляжачае ў яськях. І мы бачылі, перарваў яго другі, Неба адкрытае, і мноства ангелаў, якія сьпявалі: СЛАВА НА ВЫШЫНЯХ БОГУ Й НА ЗЯМЛІ МІР...

— Бязумоўна, сказаў ізноў першы: нам цяжка чакаць, што ты паверыш усяму гэтаму. Але прашу цябе, вер нам, я гавару табе як пад прысягаю: я бачыў і чуў гэта!

Язэп сьціснуў рукі. О, ён верыў ім поўнасьцю. Ён верыў ім, што ўрэшце НЕХТА паслаў іх сюды ў стайню. Апавяданьне пастыроў напоўніла Язэпа радасным супакоем. Ён разважаў: так, прыйшоў знак зь Неба, якое адкрылася для гэтых пабожных людзей, і ангелы выявілі радасьць Нябёсаў з Нараджэньня Дзіцятка ад мае Марыі! А таксама й маю радасьць! Слава на вышынях Богу!

Язэп адчыніў дзверы й з радасьцю пацалаваўся з пастырамі. Ціхутка яны пайшлі за ім да ясьляў, каля якіх ужо была Марыя. Тут яны пабожна сталі на калені й да зямлі пакланіліся Дзіцятку, Спасіцелю сьвету, Богу ў людзкім целе, дый Марыі, даючы волю сваім сьлязам радасьці й насалоды.

Калі-ж яны выйшлі, ціха сьпяваючы псальм Давіда, у душы Язэпа й Марыі, бо Яна чула ўсю размову, радасным рэхам зьвінелі галасы нязьлічонага воінства Нябеснага, якія й цяпер зьвіняць у душы кажнага пабожнага чалавека, у душах нас усіх: СЛАВА НА ВЫШЫНЯХ БОГУ Й НА ЗЯМЛІ МІР ЛЮДЗЯМ ДОБРАЕ ВОЛІ!

(Паводля кніжкі Ф.. Аўсьлера: „Жыцьце Хрыста").

---

## *ЗОРАЧКІ*)*
### *(Беларуская Калядка)*

*Сьвецяць, сьвецяць зорачкі*
*Зоркі серабраныя*
*На палі, узгорачкі,*
*На даліны цьмяныя.*

*Весьцяць сьвету тайніцу,*
*Весьцяць гар над гарамі,*
*Што ў беднай стаенцы*
*Гэтай ночкай здарыўся.*

*Зорка прамяністая*
*Ўстала над разлогамі,*
*Маці — Дзева Чыстая*
*Нарадзіла Бога нам.*

*) Музыка да гэтае Калядкі напісаная сьв. памяці кампазытарам М. РАВЕНСКІМ.

*Пастушкі схіліліся*
*Над Ім з песьняй шчырою,*
*Мудрацы зьявіліся*
*З золатам і міррою.*

*Дай-жа Бог — Дзіцятачка,*
*Ўсяго сьвету Сонейка,*
*Каб над кожнай хатачкай*
*Зорка зьзяла сёньнейка!*

*Хай туга суцішыцца,*
*Сьвет сьлязьмі ня засьціцца.*
*Слава Богу Ўзвышшамі,*
*На зямельцы — шчасьцейка!*

*Н. А.*

---

# Да гісторыі Беларускае Праваслаўнае Царквы

Гістарыя — камора духовых скарбаў народу ды люстра жыцьця й творчасьці яго. Гісторыя — крыніца натхненьня для ўсяго народу, асабліва-ж для ягоных духовых будаўнікоў, якія, як тыя пчолкі, зьбіраюць нэктар з сваіх гістарычных кветкаў. Народ бяз гэтых духовых скарбаў сваіх папярэднікаў жыве ў цемры, ня можа выкарыстаць сваіх Божых Дароў духа, а таму ня можа стварыць нічога вартаснага, прабывае ў няволі, узбагачае другіх, часам навет сваіх ворагаў.

Адсюль ясна, чаму нашыя ворагі пастараліся дакладна засыпаць крыніцу нашых духовых скарбаў, прысябечыць іх і гэтым поўнасьцю пахаваць нашую Гісторыю. Асабліва-ж гэта датычыць Гісторыі нашае сьв. Праваслаўнае Царквы. Яна так добра пахаваная, што стварылася ўражаньне, як быццам яе наагул ніколі ня было. Тымчасам яна ня толькі была, але й была нязвычайна багатая й слаўная. Прыйдзе час і ўсе мы будзем цешыцца, чытаючы гэтую дарагую для нас кнігу. Тымчасам мы тут падаем нашым пабожным чытачом крыху матарыялу пра аднаго із слаўных будаўнікоў нашае сьв. Праваслаўнае Царквы — сьв. КІРЫЛА ТУРАЎСКАГА.

Увесь хрысьціянскі сьвет славіць выдатнага Айца Царквы й палымянага прапаведніка — сьв. Іоана Златавуснага (345-407). Але, што Праваслаўныя маюць другога падобнага Златавуснага, сьв. КІРЫЛУ Тураўскага, нашага вялікага суродзіча, БЕЛАРУСА, аб гэтым мала хто ведае, у тым ліку й мы самы. Чаму? Чаму мы амаль ня ведаем нашых Айцоў Царквы, яе будаўнікоў, акрамя можа сьв. Еўфрасіньні Полацкае? Адказ просты: ужо многа стагодзьдзяў таму нашая сьв. Праваслаўная Царква была поўнасьцю антыкананічна зьліквідаваная нашымі агрэсыўнымі суседзямі, якія зусім ня былі зацікаўленыя ў тым, каб наш паняволены народ ведаў і славіў сваіх слугаў Божых, сваіх волатаў духа. Калі-ж нашая сьв. Царква пачала памалу адраджацца, дык у ёй, сярад яе духавенства, усе яшчэ моцна пакутаваў ды й да сяньня сярод многіх пакутуе рабскі дух, паводля якога ўсё чужое лепшае, прыгажэйшае за сваё. Таму, вось, мы й цяпер вельмі мала ведаем нашага вялікага сьвятога — КІРЫЛУ Тураўскага. Праўда, у 1950 г., кс. П. Татарыновіч выдаў навукова-рэлігійную манаграфію аб Кірыле Тураўскім, за якую атрымаў тытул Доктара Тэалёгіі ў Рыме, але выдаў яе на італьянскай мове. Манаграфія гэтая дасюль не пераложаная на беларускую мову, таму фактычна яна для нас не існуе.

Бязумоўна, абысьці моўчкі, або зусім адкінуць такога сьвятога, як Кірыла Тураўскі, рассійская Царква не магла, таму аб ім сваго часу ня мала пісалася, паўстаў шэраг манаграфіяў і розных, як навуковых, так і літаратурных працаў. Нажаль, знайсьці іх цяпер ня лёгка, тым болей, што ўсе гэтыя працы выдаваліся даўно: у 16-19 стагодзьдзях, а яшчэ раней творы сьв. Кірылы былі толькі ў рукапісах. Ясна, амаль усюды сьв. Кірыла фігуруе як „русскій" сьвяты, як „русскій" Златавусны. Але, дзякаваць Богу, як пабачым, ёсьць і выняткі. І магчыма тут і ёсьць прычына, чаму імя сьв. Кірылы ня зьзяла сярод нашага народу: усе гэтыя аўтары аб творах сьв. Кірылы напэўна адчувалі, што раней ці пазьней выйдзе на сьвятло Божае, што Ён быў беларус, таму, вось, трэба быць асьцярожным . . . Тут таксама прычына таго, чаму наш народ дасюль ня мае агульна прызнанага сьвят Кірылы, зрэштаю, як і сьв. Еўфрасіньні ды іншых беларускіх сьвятых. На гэта нам прыходзіцца крыху яшчэ пачакаць.

Паводля „Русскаго Біографічнаго Словаря", бач. 647, сьв Кірыла быў сынам багатых бацькоў. Нарадзіўся й вучыўся ў Тураве, Меншчына. Многа працаваў над сабою, ведаў старадаўнія мовы, дакладна пазнаёміўся з візантыйскаю й славянскаю літаратураю, асабліва-ж з творамі сьв. Айцоў Царквы. З такім багатым духовым скарбам ён прыняў манаштва, і, будучы яшчэ інакам, задзіўляў усіх у манастыры сваімі пропаведзямі-казаньнямі. Жадаючы яшчэ болей здасканаліцца, ён прыняў самы суровы спосаб падвіжніцтва. Аб гэтым яго-ным жыцьці гаворыцца: „После блаженны, ня большая подвиг желая, во столп вшед затворися, и тут пребысть неколико время, с постом и молитвою паче себе тружася, и много божественная изволи, многая божественная писанія изложив" (бач. 647). Неўзабаве слава аб ім далёка пашырылася, і Кіеўскі мітрапаліт хіратанізаваў яго ў Епіскапа Тураўскага.

Паводля розных аўтараў — Калайдовіч, Малышэўскі, Галубінскі й інш. сьв. Кірыла нарадзіўся ў 1114 г., у 1169 г. быў хіратанізаваны ў Епіскапа, і памёр у 1182 г. У „Гісторыі Расейскае Іерархіі", 1807, зазначана наступнае: „Епархія Тураўская й Пінская: 5) Кірыл, сьвяты, хіратанізаваны 1114, сакавіка 6 ,супачыў 11??, красавіка 28 дня. Памяць яго красавіка 28 дня". Тут, ясна, год хіратоніі падаы памылкова замест году нараджэньня, а год сьмерці пад знакам запытаньня! Пахаваны сьв. Кірыла ў манастыры Барыса й Глеба, дзе ён жыў, і дзе ўвесь час знаходзіліся й мошчы яго.

Аб творах сьв. Кірылы мы будзем гаварыць пазьней. Тымчасам падамо думкі расейскіх аўтараў аб велічы яго. Той жа Біаграфічны Слоўнік, бач. 653, зазначае: „Як аўтар і прапаведнік сьв. Кірыла быў прыкладам нязвычайнага красамоўства, якое захапляла кажнага. Ён ня толькі перадаваў сваім слухачом тое ці іншае Евангельскае здарэньне, але й прымушаў іх перажываць яго разам зь ім. Сваімі палымяннымі, прыгожымі словамі ён ушляхатняў і падымаў душы сваіх вернікаў угару, да Бога.

Сваімі вялікімі ведамі, асабліва сьв. Пісьма, і сваім чароўным словам сьв. Кірыла быў падобны да сваяго папярэдніка Сымона Баўгарскага, асабліва-ж да сьв. Іоана Златавуснага, дзеля чаго й сам

стаў нашым „расейскім” Златавусным. Пабудову сказаў і хараство апрацоўкі іх у сьв. Кірылы многія спэцыялістыя прыраўноўваюць да мазаічных абразоў візантыйскага стылю. Параўнаньні, супрацьстаўленьні, пытаньні,, звароты, ускпікі, мэтафары разам з драматызмам выкладу ды алегорыямі тут шматгранна чарадуюцца й робяць з кажнага „Слова” сьв. Кірылы бліскучы твор (бач. 654).

Усе творы сьв. Кірылы паказваюць нам глыбока асьвечанага чалавека й цудоўнага прамоўцу, роўнага якому ня было ў РАСЕЙСКАЙ (падкр. нашае) Царкве ня толькі за мангольскіх часоў, але й да часоў Пётры Вялікага. Побач зь ім можна хіба паставіць толькі аўтара „Слова аб Палку Ігаравым” (там-жа).

Цікава, між іншым, што аўтар вышэй сказанага, гаворачы аб тым, як лёгка сьв. Кірыла ўсё нявідочнае й таямнічае выясьняў відочным, у жыцьці існуючым, а вобразамі Старога Запавету здарэньні Новага Запавету, зазначае, што тут да яго крыху наблізіўся толькі мітрапаліт Клімэнт Смаляціч! Як вядома, гэта другі наш вялікі суродзіч-беларус! І нічога дзіўнага, зазначае аўтар, што ўжо ў XIII ст. ён, сьв. Кірыла, атрымаў тытул „златословеснаго витіи”, і ў тым жа стагодзьдзі ягоныя творы ўжо былі пашыраныя сярод усіх славянскіх народаў, бо ў канцы гэтага стагодзьдзя зьявіліся ўжо ў сэрбскіх Зборніках казаньняў, а пасьля ўвайшлі ў Зборнік „Златоустаў”, і ўсе духаўнікі карысталіся „Словамі” сьв. Кірылы як узорамі для пропаведзяў аж до XVII ст.” (бач. 655).

Тут, між іншым, зазначым, што „Талковае Евангельля” сьв. Кірылы выдаў Кузьма Ів. Мамоніч у 1595 г., а Зборнік ягоных павучальных і ўрачыстых „Словаў”, які спачатку быў выданы ў 1643 г., пасьля перавыдаваўся пяць разоў аж да XIX ст.

У „Сборнике Императ. Академіи Наук”, т. 85, С.-Петерб., 1908, між іншым, гаворыцца: „Да ліку самых выдатных памятнікаў „расейскае” літаратуры XII ст. належаць творы сьв. Кірылы Тураўскага. Значэньне іх было вялікае ня толькі ў XII ст., але й на працягу XVIII-XIX ст.” (бач. 273). „Якое вялікае значэньне мелі гэтыя творы для сучасьнікаў сьв. Кірылы мы бачым з таго, што яны ўсьцяж перапісваліся й пашыраліся ў сотнях і тысячах прымернікаў. І гэта прадаўжалася некалькі стагодзьдзяў, і чыталіся яны часта ўсенародна й ўрачыста” (бач. 274).

— Як толькі зьявіўся друк, яны адразу пачалі друкавацца, і занялі месца ПОБАЧ ТВОРАЎ ВЯЛІКІХ АЙЦОЎ ЦАРКВЫ (падкр. нашае). І хто цяпер вывучае жыцьцё і „расейскую” літаратуру XII ст., той бяз твораў сьв. Кірылы ня можа абыйсьціся” (там-жа).

У „Опыте историческаго словаря” аб усіх праслаўленых сьвятых мужох, Масква, 1784, між іншым сказана: „. . . сьв. Кірыла нарадзіўся ад багатых бацькоў у Тураве, што ў БЕЛАЙ РУСІ (падкр. нашае). Гэта запраўды быў Пастыр славесных авец Хрыстовага стада, упрыгожваючы прастол архірэйскі сваім сьвятым жыцьцём. Быў карысны сьв. Царкве многімі сваімі пісаньнямі” (бач. 342). Карамзін у сваей Гісторыі Расеі, т. III, успамінае пра „выдатнага сваею вучонасьцю сьв. Кірыла Тураўскага”. Шмат гаворыць аб ім Ф. Калайдовіч у сваіх „Памятніках рас. славеснасьці XII ст.”, 1821. Амаль дзьве трацiны

зборніка займаюць „Твори св. Кирилла, еп. Туровскаго, россійскаго витіи XII ст.".

У „Исторіи древней русской словесности" Максимовича, 1839, гаворыцца: „Нам засталася багацьце твораў выдатнага „русскаго витіи" сьв. Кірылы Тураўскага". Праф. Салаўёў у сваей „Исторіи Россіи", т. III, бач. 96-100, гаворачы пра сьв. Кірыла, між іншым, кажа: „У сваіх „Словах" сьв. Кірыла паказвае нам павагу й веліч сьвята ці сьвятога, і заклікае народ да праслаўленьньня яго й Хрыста, таму ён часта карыстаецца формаю й выразамі царкоўных песьняў. Сьв. Кірыла ажыўляе свае „Словы" размовамі, прытчамі, параўнаньнямі, супрацьстаўленьнямі, пераносам здарэньняў у ягоныя часы. І вось гэтым ён стварыў ЭПОХУ (падкр. нашае) якая сталася крыніцаю пазьнейшых царкоўных красамоўцаў з паўдзённазаходняе Расеі, якія доўгі час былі ў нас АДЗІНЫМІ (пакр. нашае) духоўнымі прамоўцамі й узорамі... Наагул памятнікі паўдзённазаходняе (чытай — беларускае) пісьменнасьці розьняцца ад паўночных (чытай — расейскіх) сваімі аздобамі, што, бязумоўна, паходзіць ад розьніцы ў характары жыхароў гэтых вобласьцяў".

Тут неабходна падзякаваць Праф. Салаўёву за дзьве рэчы: 1) за адкрытае прызнаньне духовае вышэйшасьці сьв. Кірылы й беларускае пісьменнасьці XII-XVII стагодзьдзяў над расейскаю пісьменнасьцю, і 2) за тое, што ён, хоць, праўда, і крыху ўстыдліва перад сваімі землякамі, прызнае, што сьв. Кірыла быў не расеец, а — паўдзённазаходнік (!), бо-ж адкрыта сказаць — Беларус, не адважыўся, або хто ведае, можа рэдакцыя „выправіла!" Аднак, і за гэта варта падзякаваць яму, як і аўтарам „Гістарычнага Слоўніка".

Так, сьв. Кірыла Тураўскі быў Пастырам нашае сьв. Беларускае Праваслаўнае Царквы, быў вялікім сынам Беларускага Народу, прадстаўніком нашае духовае велічы, глыбокае пабожнасьці нашых продкаў з часоў іх вольнага й незалежнага дзяржаўнага жыцьця. І колькі падобных волатаў мы бы мелі, калі-б на сьвеце не існавалі агрэсары!

На гэтым мы тымчасам агульныя заўвагі аб Сьв.. Кірыле закончым. Як мы ўжо зацемілі, аб ягоных творах мы будзем гаварыць у далейшых нумарох „Голасу Царквы", а цяпер падаем нашым пабожным чытачом адно зь ягоных „Словаў", якое ён напісаў да сваяго прыяцеля — манаха Варфаламея. Чытайце, і радуйцеся!

---

# Бяседа сьв. Кірылы з Варфаламеем

Браце, Варфаламею, пасьпяшы да мяне, як пчолка да кветкі, і схілі вушы свае да бяседы вуснаў маіх, каб гартань твая насаладзілася славамі маімі болей мёду й цукру. Браце мой, накіруй сэрца сваё да патоку языка маяго, каб напаіўся розум твой мацней за воды арамацкія. Браце мой, будзь юнак целам, але розумам старац і затрубі ў трубу пачуцьцяў тваіх, каб яны зьляцеліся як пчолы й птушкі, думкі добрыя, і ляці духам сваім як арол у паветры. Браце мой, зьмясьці рай у бяседу языка маяго, і ўлажы розум свой у вусны мае, як у залатое гарніла, каб ня цешыўся зь цябе падступны вораг.

Браце мой, калі хатняе вогнішча будзе бліскучае як золата, а нявеста ў ім будзе злая, дык няма любові жаніху: так і Богу ня ўгодна, калі хто целам харошы, а душа поўная брыдкіх думак і ўчынкаў. Браце мой, служы цару зямному, але ніколі не забывайся на Цара Нябеснага: многія бо бязглуздыя, славячы зямнога цара дзеля карысьцяў, скора будуць пазбаўленыя славы й пойдуць на дно пекла. Браце мой, дбаючы пра мірское, слухай голас Божы; прабываючы ў цемры, сьпяшы да сьвятла. Браце мой, бачучы нявольнікаў цела, што прыгожа жывуць, не завідуй ім: не сумуй з беднаты твае, гледзячы на ўбогасьць рызаў сваіх, але лепш хадзі свабодны ў іх, чым паняволены ў дарагіх. Браце мой, не многаслоў, каб ня стаўся падобным да жорнаў, якія многіх людзей насычаюць, але самы галодныя. Наперад сам паслухай бяседу вуснаў сваіх, і ня будзь тым калодзезям, што людзей напойвае, а сам на дне мае скарб нячысты. Браце мой, ня будзь гаспадаром няпраўдаў, як каваль беззаконных, ані пастух паклёпаў, ані цар брыдотаў, каб не прыняло цябе пекла, як маці немаўлятка. Браце мой, завастрай розум свой, адкідай ляніства, ухіляйся ад усякіх шляхоў блудных, і няхай не спатыкаецца нага твая. Браце мой, будзь для сьляпых вокам, для храмых нагамі, для глухіх вухам, для галодных ежай, для нагіх адзежай, хворых наведвай, і ў цямніцы хадзі. Браце мой, калі ты мудры, дык прамудрых вучы, а бязглуздым не гавары мудрасьці, бо лянівы асёл воза не пацягне. Браце мой, сьвяшчэньніка нямудрага не насьлядуй, бо, ня могучы сябе направіць, як можа табе памагчы? абодвыя неўзабаве ў яму ўпадзеце. Браце мой, не завідуй багатым, не сумуй з беднаты, але разумей, што большая слава ў бядоце, аднак, бедны на зямлі, старайся здабыць багацьці нябесныя. Браце мой, калі ты валадар, няхай з цябе не блішчыць гардыня твая, калі ты сьвятар, будзь разумны й цьвёрды. Браце мой, калі ты манах, ня будзь злосьнікам, або лёгкадумам, бо залаты пярсьцёнак у горле катла не пазбавіць яго чарнаты ў сярэдзіне. Браце мой, ня сей жыта на барозны, ні мудрасьці на сэрцы бязглуздых. Браце мой, пасварыўся ты ці пагневаўся, не саромся паміры́цца. Браце мой, добра сытаму царава абеду чакаці, а праведнаму часу сьмерці. Маці ня хоча дзяцей сваіх ліхіх выгубіць ранамі, так і Бог ня хоча чалавека грэшнага зьнішчыць напасьцямі й бедамі жыцьцёвымі. Браце мой, як горад без абароны скора пераможаны напасьнікамі бывае, так і душа не бароненая малітвамі й пастом. Амінь.

Напэўна ты, дарагі чытачу, хацеў бы й далей насалоджвацца такімі цудоўнымі словамі! Тымчасам пачакай да наступнага нумару нашага часапісу. З гэтага „Слова" сьв. Кірылы мы бачым, што хоць яно й скіраванае да прыяцеля Варфаламея, аднак, датычыць усіх. Больш таго, яно й цяпер мае вялікае значэньне для ўсіх нас, як сваею пабожнасьцю, глыбінёю думак, так і хараством цудоўных вобразаў, зь якіх добра можа скарыстаць і навучыцца не адзін сучасны паэт, абы толькі ня быў лянівы . . . Акрамя таго, цікава зьвярнуць увагу на нашыя старадаўнія словы, як: жорны, цукер, каваль, калодзезь, баразна, валадар, цямніца, пастух, ліхі ды інш. Усё гэта словы з арыгіналу, мы іх ані не зьмянялі. Падобных словаў у творах сьв. Кі-

рылы было многа болей, але яны пазьней моцна русыфікаваліся, аб чым мы яшчэ ўспомнім.

(Працяг будзе)

*С. Клім*

---

# ДУХАВЕНСТВА

## БЕЛАРУСКАЕ АУТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАУНАЕ ЦАРКВЫ (БАПЦ).

## CLERGY

## OF BYELORUSSIAN AUTOKEPHALIC ORTHODOX CHURCH (B.A.O.CH.).

HIS EXCELLENCY MOST REV. ARCHBISHOP SERGIJ
*The Head of B.A.O.CH.*
8, Church St., Cabramatta, N. S. W. Australia.

HIS GRACE MOST REV. ARCHBISHOP VASILI
*The Secretary of Holy Synod of B.A.O.CH.*
108, Wyckoff St., Brooklyn 1, N. Y.

RT. REV. ARCHIMANDRYT DANIEL, Adelaide.

VERY REV. M. SZCZURKO. 8, John St. Flinders Park, S. A. Australia.

REV. B. ZIELINSKY. Sidney. Australia.

VERY REV. T. DANILUK. 379, Vermont St., Brooklyn 7, N. Y.

VERY REV. ST. WOJTENKO. 332, Mansfield St. Highland Park, N. J.

REV. E. YAKIMENKO. 1708 E. 31st St. Lorain, Ohio.

REV. A. KRYT. 14, Southey Place. Bradford 3, England.

REV. E. SMARSCOK. 22, Leopold Ruelen Str. Kessel-Lo (Leuven). Belqium.

REV. M. MACUKIEVICH. 1000, Dundas St. W. Toronto, Canada.

REV. ARCHDEACON K. SAVICKY. 1020, Kienilworth Ave. Cleveland 13, Ohio.

CONDUCTORS OF CHOIRS:

Prof. comp. M. KULIKOVICH, Cleveland.
A. KAPTUROVICH, New York.
F. RODZKO, New Brunswik.
P. SLAWKO, Toronto, Canada.
K. KISLY, Leuven, Belqium.
P. NIESLUCHOVSKY, Cambrige, England.

---

# ХРОНІКА

**АЎСТРАЛІЯ. СІДНЕЙ.** На чале Прыходу й сьв. БАПЦарквы тут стаіць сам Глава яе, Высокапрэасьвяшчэньнейшы Уладыка, Архіяпіскап СЕРГІЙ. Разам зь ім служыць а. Б. ЗЕЛІНСКІ. У апошнім часе нашая Царква тут значна пашырыла й узмацніла сваю дзейнасьць. Уладыка Сергій служыць урачыстыя Службы Божыя кажную Нядзелю, асабліва-ж прыгожа у часе нашых нацыянальных сьвятаў, за што мясцовыя беларускія патрыёты вельмі ўдзячныя яму, паважаюць і шануюць яго дый усякім спосабам падтрымоўваюць як яго, так і нашую сьв. Царкву. Зь іх асаблівая падзяка належыць Сп. Я. ГАВЕНЧЫКУ, які ня толькі самаахвярна падтрымоўвае нашую сьв. Царкву, але й прыняў Уладыку Сергія ў свой дом, даючы яму прыгожы пакой.

**АДЭЛЯІДА.** Тут знаходзіцца наш паважаны Пратаіерэй, а. М. ШЧУРКО. Спачатку, ад 1950 г., ён два гады служыў разам з украінскім сьвяшчэньнікам, але пасьля дзякуючы сваей вялікай самаахвярнасьці, зарганізаваў свой беларускі Прыход і сваю Царкву, якая, як і ў Сіднеі, атрымала чартар. Ня гледзячы на тое, што беларуская

каленія тут невялікая, а. М. Шчурко стала й рэгулярна служыць Службы Божыя, стала моліцца за Беларусь і прыгожа абслугоўвае духовыя патрэбы сваіх вернікаў. Добра памагае яму Сп. інж. Трысмакоў.

У апошнім часе нашае царкоўнае жыцьцё тут асабліва ўзмацнілася дзякуючы таму, што два вялікія грэцкія Прыходы на чале з а. Архімандрытам Даніелям увайшлі пад апеку нашага Уладыкі Сергія. Ужо некалькі разоў адбыліся супольныя Службы Божыя, якія былі нязвычайна ўрачыстыя асабліва таму, што сьпявалі два хоры: грэцкі й беларускі. Гэтыя супольныя Службы Божыя на чале з Уладыкаю Сергіем вельмі падабаюцца грэкам, і ўсе яны вельмі любяць і шануюць яго. На Вадохрышча таксама заплянаваная такая супольная Служба Божая Вялікага Асьвячаньня Вады на моры. Гэтаю Службаю Божаю зацікавіліся мясцовыя аўстралійскія ўлады, і сам Губэрнатар з сваею сьвітаю паабяцаў быць прысутным на ёй, а розныя радыё-станцыі ўжо запрасілі Уладыку Сергія даць ім сваю згоду на сфільмаваньне яе. З гэтага ўсе мы, беларусы, вельмі цешымся й вельмі ўдзячныя Уладыцы Сергію, а. М. Шчурко й нашай сьв. Царкве.

**КАНАДА. ТОРОНТО.** Беларускае грамадзтва тут ужо 20-21 лістапада 1954 г. мела вялікае сьвята. Сюды завітаў Высокапрэасьвяшчэньнейшы Уладыка, Архіяпіскап Васіль і высьвяціў нашую Царкву й нованабыты грамадзкі Дом. Настаяцелем нашае сьв. Царквы Уладыка Васіль прызначыў усімі намі паважанага нашага акадэміка а. Міхаіла МАЦУКЕВІЧА. У сувязі з гэтым мы горача дзякуем Высокапрэасьвяшчэньнейшаму Мітрапаліту Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Канадзе ІЛАРЫЁНУ, які ня толькі быў Дзеканам Багаслоўскае Акадэміі, у якой вучыўся а. Міхаіл, але й на просьбу Уладыкі Васіля, рукапалажыў а. Міхаіла ў сьвяшчэньніка для нашае сьв. БАПЦарквы.

Але яшчэ болей мы цешыліся сёлета, 1-2 верасьня, у дзень першых Угодкаў адкрыцьця нашае сьв. Царквы й набыцьця Дому. Уладыка Васіль таксама й цяпер не адмовіў нам узначаліць гэтую нашую ўрачыстасьць, на якую прыбыла шмат нашых суродзічаў з ваколіцаў Торонта. У суботу Уладыка Васіль, у асысьце а. Міхаіла, адслужыў вельмі ўрачыста Усенашную, а ў Нядзелю сьв. Літургію. Як на Усенашнай, так і на сьв. Літургіі Уладыка Васіль глыбока крануў нашыя душы сваімі прыгожымі пропаведзямі. Многія з нас не маглі паўстрымаць сьлёзаў радасьці й пацехі. У часе сьв. Літургіі Уладыка Васіль узнагарадзіў а. Міхаіла Набедранікам, сказаўшы пры-гэтым сваё кароткае натхнёнае слова, ад якога выступілі сьлёзы ня толькі ў а. Міхаіла, але й у многіх з нас, тым болей, што ўсе мы былі рады з гэтае нагароды а. Міхаілу, бо ён яе запраўды заслужыў. Вельмі прыгожа сьпяваў наш хор пад кіравецтвам дырыгента-псаломшчыка Сп. Слаўко, якому таксама належыць нашая падзяка.

Пасьля сьв. Літургіі адбыўся супольны абед. Многія прамоўцы горача віталі Уладыку Васіля й дзякавалі яму за ягонае прыбыцьцё на нашую ўрачыстасьць і наагул за ягоную самаахвярную службу нашай сьв. Царкве й усім нам.

У сваім адказе Уладыка Васіль, усхваляванны прыгожымі словамі прамоўцаў, між іншым, сказаў: „Будзьце толькі цьвёрдымі ў Веры й далей ані не сумлявайцеся, палымянна любеце Госпада Бога нашага Ісуса Хрыста, і Ён будзе з вамі. Ён праявіў вялікую Ласку Сваю да вас і тым, што паслаў вам такога самаахвярнага Пастыра, як а. Міхаіл, які паводля Навукі Спасіцеля нашага: „Няхай слова вашае будзе так-так і не-не”, сказаў у сэрцы сваім: так, усё ахвярую на Славу Божую й дабро нашага Народу. І як сказаў, так і зрабіў: усё жыцьцё сваё ахвяраваў Богу й усім нам, ані не сумляваючыся. Бо вы ўсе сказалі ў сэрцах сваіх: так, нашая сьв. Царква й наш грамадзкі дом у Торонто мусяць быць. І як сказалі, так і зрабілі, ані не сумляваючыся.

І ў гэтай вашай цьвёрдай Веры й самаахвярнасьці ды любові да Бога й Бацькаўшчыны й ёсьць галоўнае значэньне сяньняшняе вашае ўрачыстасьці першых Угодкаў набыцьця Дому й адкрыцьця Царквы"...

Айцец Міхаіл не абмяжоўваецца толькі духоўнаю апекаю беларусаў у Торонто. З дапамогаю ЗБК і Царкоўнае Рады ён пашырыў сваю апеку таксама й на нашых суродзічаў у іншых мясцовасьцях, як Ашова, Кобург і т. д. Усюды нашыя людзі радыя яму, бо ён ня толькі шчыры беларус, але й запраўдны натхнёны Пастыр наш. Запраўды, Бог ласкавым Сваім вокам глянуў на нас.

**БЭЛЬГІЯ. ЛЮВЭН.** Як мы ўжо падавалі ў мінулым нумары нашага часапісу, а. А. СМАРШЧОК духова абслугоўвае ўсе асяродкі нашых людзей у Бэльгіі. Акрамя таго, на просьбу украінскага Царкоўнага Кіравецтва, ён духова абслугоўвае й многіх украінцаў. Відаць ягоная духовая апека стаіць запраўды высока й гэтым узмацняе ягоны аўтарытэт, бо вось ужо й грэцкі а. Архімандрыт запрасіў яго ўзяць пад сваю пастырскую руку тых ягоных суродзічаў, якія знаходзяцца ў абсягу рэлігійнае дзейнасьці а. Аўтена, на што апошні ахвотна даў яму сваю згоду. Але наш а. Аўген у пашане ня толькі ў вернікаў і сьвяшчэньнікаў, але й у Архіерэяў. Бо вось ужо ад вясны ў ягонай капліцы ў Лювэне разам зь ім служыць Япіскап Григорий з расейскае праваслаўнае Царквы ў Францыі, якая належыць да Юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха. Так Праўда Божая, і добрая, самаахвярная служба Богу нашых сьвяшчэньнікаў прыносіць багаты плён свой, узмацняе нашую сьв. Царкву й папулярызуе нашую сьвятую беларускую справу. Слава нашым сьвяшчэньнікам і нашай сьв. БАПЦ.

**АМЭРЫКА. НЮ-ЁРК.** Нашая сьв. Царква тут памаленьку ўзмацняецца, здабывае новых прыхажан. Настаяцель яе, Пратаіерэй а. Хведар ДАНІЛЮК, хоць ужо й стары й хворы, да таго яшчэ працуе, аднак, па меры сваіх сілаў памагае Уладыцы Васілю сваім вельмі прыгожым служэньнем у Царкве. Голас яго, ня гледзячы на высокі век, гучыць ясна, прыгожа й моцна, як у маладога, за што ўсе мы вельмі ўдзячныя яму.

Уладыка Васіль, як і раней, не забываецца на сваіх вернікаў і ў іншых нашых Цэрквах, асабліва на блізкі нам Ню Брансвік й Саўт Рывэр, дзе Настаяцелем зьяўляецца таксама ўжо старэнькі наш Пратаіерэй а. Сьцяпан ВОЙТЭНКО, які, аднак, таксама ўсё яшчэ поўны энэргіі й самаахвярнасьці ў сваім служэньні Богу й нашаму слаўнаму Народу. Сваім прыгожым голасам ён таксама чаруе душы й сэрцы сваіх вельмі пабожных вернікаў, а сваім малітоўным настроем прыемна й лёгка падымае іх да Бога. Таму Уладыка Васіль, як кажнага году, так і цяпер ахвотна завітаў да іх. Служба Божая была вельмі ўрачыстая й Царква была перапоўненая вернікамі. Пасьля Службы Божае нязвычайна самаахвярныя жанчыны зарганізавалі супольны абед, на якім было звыш 100 асобаў. Многія пабожныя вернікі горача дзякавалі Уладыцы за ягоную самаахвярную працу, за ягонае прыбыцьцё да іх, за пацеху й апеку Архіпастырскую на славу Бога й дабро нашае любае Беларусі. Наш Уладыка быў моцна ўсхваляваны й натхнёна дзякаваў як прамоўцам, так і ўсім прысутным за цеснае супрацоўніцтва, за ўзмацненьне нашага духа, які з дапамогаю Божаю прывядзе нас неўзабаве да Божае й наше Свабоды на любай Беларусі. Глыбокія пачуцьці падзякі Уладыцы за гэтыя прыгожыя словы цяжка перадаць у пару радкох.

Дзень нашых Герояў і Слуцкіх Змагароў 27-га лістапада ў Нядзелю быў у нас сёлета нязвычайна слаўны й урачысты. Службу Божую служылі два Архіерэі, Высокапрэасьвяшчэньнейшыя Архіяпіскапы ВАСІЛЬ і БАГДАН у асысьце трох Пратаіерэяў, а. а. Хведара, Івана й Рамана. Вельмі прыгожа сьпяваў хор пад кіравецтвам дырыгента Сп. А. Каптуровіча. Уладыка Васіль сказаў вельмі прыгожую пропаведзь аб нашых любых, родных, загінуўшых Героях, якія душы свае аддалі, каб жыла Беларусь. Магчыма таму пасьля на сьв. Паніхідзе Царква зьзяла ў сьвятле запаленых сьвечак у ру-

ках амаль кажнага з пару сот прысутных вернікаў. Служба Божая закончылася нашым царкоўным Гімнам „Магутны Божа" і Многалецьцем сьв. БАПЦаркве, Уладыкам Васілю, Багдану й усяму нашаму Духавенству дый нашаму церпячаму й слаўнаму Беларускаму Народу.

Пасьля Службы Божае адбыўся супольны абед, на якім было каля 100 асобаў. Абед быў удала зарганізаваны Царкоўнаю Радаю, таму ўсім падабаўся. Многія прамоўцы горача й прыгожа віталі Уладыкаў і дзякавалі ім за ўрачыстую Службу Божую. Уладыка Васіль, як і заўсёды, горача й натхнёна падзякаваў прамоўцам і выявіў глыбокую надзею на скорае вызваленьне нашае любае Маці-Беларусі. З абеду ўсе пайшлі на Акадэмію, якая таксама зрабіла на ўсіх прыгожае ўражаньне.

Так удала прайшоў Дзень нашых Герояў у Нью-Ёрку, арганізаваны Згуртаваньнем Вэтэранаў, якому вельмі добра памагла нашая сьв. Царква. Сам Гасподзь Бог прабываў з намі, а нашыя Героі-пакутнікі напэўна цешыліся з нашых малітваў за душы іх дый маліліся разам з намі перад Прастолам Усявышняга за скорае зьдзейсьненьне ідэалаў іхных — Вызваленьне Беларусі. Памажы нам Божа.

---

# АД ВЫДАВЕЦТВА

Дарагія Чытачы. Калі выходзіў першы нумар „Голасу Царквы", мы ня думалі, што спаткаемся з Вамі ізноў так позна. У той час Царкоўная Рада БАПЦ у Нью-Ёрку, дзякуючы ахвярнасьці сваіх вернікаў, выкарыстала гэтыя невялікія фінансавыя магчымасьці, уважаючы, што ў далейшым нашыя браты-падпісчыкі забясьпечаць ягонае пэрыядычнае выданьне.

Аднак, розныя непрадбачаныя выдаткі на ўтрыманьне Царквы забралі ўсе нашыя ашчаднасьці дый прымусілі нас навет зьвярнуцца да шмат каго з Вас за падтрымкай. Зразумела, пры такіх умовах мы не маглі прыступіць да выданьня наступнага нумару „Голасу Царквы". Аднак, з дапамогай Божай ды дзякуючы ахвярнасьці нашых вернікаў, мы змаглі прывітаць Вас з РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ гэтым другім нумарам нашага часапісу, перадаючы яго Вам да Вашае пабожнае ўвагі й ацэны.

Хаця наш першы нумар і быў прыняты чытачамі вельмі прыхільна, а некаторыя зь іх прыслалі нам пахвальныя водклікі й падзяку, у тым ліку й Высокапрэасьвяшчэнныя Уладыкі, мы ведаем, што наш часапіс тымчасам сьціплы як сваім разьмерам, так і зьместам. Мы хацелі-б зрабіць яго больш разнастайным, мець больш супрацоўнікаў.

Для ўсяго гэтага мы патрабуем узмацненьня нашае матарыяльнае базы, і вось на гэта зьвяртаем Вашую ўвагу. Праваслаўныя, як ведама, твораць абсалютную бальшыню нашае эміграцыі. Тымчасам, рэлігійна-выдавецкая дзейнасьць нашая была дасюль больш чым сьціплая. Усе спробы, якія ў гэтым кірунку дасюль рабіліся, ніяк не маглі заспакоіць смагу прагнучае душы, бо служылі толькі нізкім асабістым амбіцыям ды непрыгожым асьпірацыям, таму, акрамя шкоды, нічога добрага даць не маглі. Тымчасам, некаторыя нашыя праваслаўныя навет падтрымоўваюць беларускія каталіцкія часапісы, і гэта гаворыць нам аб вялікай патрэбе свайго рэлігійнага друкаванага слова, ясна, такога, якое бы духова ўзмацняла, пацяшала й радавала нас, а такім і хоча быць наш „Голас Царквы", як піша нам адзін Архіпастыр: „Усё добрае, карыснае, прыгожае, усё ад пачатку да канца патрэбнае для душы"...

Дарагія Чытачы! Далёка ня ўсюды нашыя выгнанцы маюць магчымасьць памаліцца ў сваей роднай Царкве, узмоцніць сябе духова падчас Службы Божае, пацешыць і парадаваць сябе словамі пропаведзі ў сваей роднай мове. Нажаль, сярод нас

ёсьць і такія, якім часта бракуе часу й ахвоты на пазнаньне Бога, на рэлігійнае й маральнае ўзбагачэньне, на духовае дасканаленьне, без чаго як адзінка, так і народ, ня можа тварыць ня толькі вечных, але й часовых скарбаў, запраўдных, ня гінучых вартасьцяў. Прычына гэтага слабога зацікаўленьня ў апошніх пераважна ў тым, што яны нічога ня ведаюць пра Навуку Госпада нашага Ісуса Хрыста, пра Ягоныя скарбы вечныя, пра Ягоную Праўду, безь якое ўсякая, асабліва-ж нацыянальна-дзяржаўная, будова, гэта будова на пяску.

Вось жа, „Голас Царквы" хоча памагчы ўсім: і тым, што маюць шчасьце наведваць сваю родную Сьвятыню, і тым, што ня маюць гэтае магчымасьці, а таксама й тым, што дасюль блудзяць у цемры. Усіх ён хоча злучыць у адну дружную Божую сямейку, усіх зрабіць слугамі Госпада нашага, ды запраўднымі будаўнікамі нашае любае Беларусі. Ці-ж не прыгожая гэта мэта нашая? Напэўна кожны з Вас скажа: бязумоўна, так!

Дык злучымся жа ўсе ў нашай ахвярнай працы для сваяго собскага дабра, для сваяго духовага багацьця! Няхай ня будзе сярод нас ані аднаго, хто бы не падтрымаў сваяго адзінага Праваслаўнага часапісу „Голасу Царквы". Мы горача заклікаем усіх праваслаўных беларусаў складаць Калядныя ахвяры на фонд гэтага нашага часапісу. Усе ахвяры будуць залічаныя на падпіску ў 1956 г.

Таксама шчыра просім памагаць нам карэспандэнцыямі, заўвагамі й радамі, здабываць новых падпішчыкаў ды падаваць нам адрасы Вашых знаёмых. Мы верым, што Вы прыймеце наш заклік ды ахвотна будзеце з намі супрацоўнічаць, таму пастараемся, каб „Голас Царквы" выходзіў часьцей ды быў мілым, чаканым госьцем у кожнай беларускай сямейцы.

Няхай вялікае Сьвята Нараджэньня Спасіцеля нашага цешыць і радуе Вас, а НОВЫ — 1956 — ГОД прынясе Вам з ЛАСКІ БОЖАЕ спаўненьне ўсіх Вашых добрых жаданьняў, а перадусім — Вызваленьне нашае любае Маці-Беларусі!

**ЦАРКОУНАЯ РАДА**
**Прыходу Сьв. КІРЫЛЫ ТУРАУСКАГА**
**БАПЦ ў Ню-Ёрку.**

---

**Высокапрэасьвяшчэньнейшых Уладыкаў нашых, Архіепіскапаў СЕРГІЯ й ВАСІЛІЯ, Высокапрэпадобных: Архімандрыта а. ДАНІЕЛЯ, Пратаіерэяў а. а. ХВЕДАРА, СЬЦЯПАНА й МІХАІЛА, усечэсных Айцоў АЛЯКСАНДРА, АЎГЕНА, ЕВФІМІЯ, БАРЫСА, МІХАІЛА й КАЛІСТРАТА, дастойных Дырыгентаў, Царкоўныя Рады, і ўсіх вернікаў сьв. БАПЦ сардэчна вітае з**

**РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ і НОВЫМ — 1956 — ГОДАМ**

**ЦАРКОЎНАЯ РАДА**
**БАПЦ ў Ню-Ёрку.**

---

**"THE VOICE OF THE CHURCH"**
**Periodical for the Byelorussians of Orthodox Faith**
**Published by the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church**
**Editor: 108 Wyckoff St., Brooklyn 2, N. Y., N. Y., Tel.: ULster 2-7552**